**№ 73 (3814)**

17 верасня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## *Против введения выездной пошлины!*

Лидеры партий Анатолий Лебедько (ОГП), Сергей Калякин ("Справедливый мир") и координатор кампании "За справедливые выборы" Виктор Корнеенко подали в Мингорисполком заявку на проведение пикета против введения пошлины на выезд за границу.

Пикет планируется провести 6 октября в парке Дружбы народов (площадь Бангалор, Минск).

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА,*
*профессор,*
*доктор экономических наук*

## Спасет ли перемирие с Россией от углубляющегося кризиса белорусскую экономику?

Как бы ни хотелось об этом говорить, но перманентный финансово-экономический кризис в Беларуси все ближе подходит к порогу острой фазы. Рост ВВП еле различим, дефицит платежного баланса достиг угрожающих размеров, сокращается экспорт, ускоряется девальвация белорусского рубля. Долго державшиеся усилиями Нацбанка на рубеже 8 миллиардов долларов золотовалютные резервы начали таять. Они сократились в августе на 214,9 миллиона долларов и на 1 сентября составили 7,7 миллиарда. Бюджет по доходам недобирает против плана триллионы рублей.

Действия Нацбанка по регулированию банковской системы напоминают метания и шараханья. Из-за недостаточной ликвидности коммерческих банков ставки по межбанковским кредитам взлетели до 80—90%. Дефицит рублевой ликвидности, к примеру, на утро 12 сентября достигал 10,6 триллиона рублей. Обсуждается вопрос ограничения кредитных процентов коммерческих банков, поскольку вновь, чтобы удержать население и предприятия "в рубле", кредитные учреждения вздернули депозитные ставки. Так, "Белагропромбанк" повысил ставки по вкладу "Старт!" с 35% до 40% годовых, "Хоум Кредит Банк" увеличил ставку по вкладу "Легкий выбор" с 35% до 39—41%. Многие частные банки также повысили процентные ставки по депозитам населения — до 40—45% годовых. Как следствие, кредитные процентные ставки тоже взлетели, так и не успокоившись.

Речь идет о том, чтобы в приказном порядке сузить банкам до минимума разницу между ставками по кредитам и депозитам (до трех процентных пунктов). Однако жесткая привязка Нацбанком процентов по кредитам к ставке рефинансирования может привести к тому, что банки по новым правилам кредитовать не смогут, и тогда реальный сектор сядет на голодный паек. Отдельные из них (БелВЭБ, "Беларусбанк") на днях уже приостановили выдачу некоторых видов кредитов. Из-за дестабилизации банковской системы Нацбанк отказался снижать ставку рефинансирования, которую он должен был довести к концу года до 13—15%.

Рублевая денежная масса увеличилась за август на 3,7% и составила на 1 сентября 76,65 триллиона. С начала года она увеличилась на 16,8%. Объем наличных денег в обращении вырос на 4,7% и достиг 13,92 триллиона (за восемь месяцев произошло увеличение на 23,1%). Это говорит о том, что печатный станок главный банк страны держит в тонусе.

К тому же обслуживание валового внешнего долга Беларуси в первом полугодии 2013 года обошлось в 3,06 миллиарда долларов (9,3% ВВП). На 1 июля валовой внешний долг страны составил 35,2 миллиарда долларов (53% ВВП), увеличившись с начала года на 4,3%. Внешний государственный долг достиг 13 миллиардов долларов (19,6% к ВВП) и увеличился на 3,5%. В расчете на душу населения внешний долг составил 3722 доллара против 3586 на начало года. Обременение долгами белорусского ВВП и населения неуклонно возрастает.

А еще, как назло, "непорядочно" и "эгоистично" ведут себя отдельные граждане: они предъявляют повышенный спрос на валюту. Предприятия и физические лица в августе на чистой основе купили 422 миллиона долларов. Наиболее прыткие лица устремляются за границу за более качественными товарами и "барахлом", вывозят валюту из страны. Другие валят работать в Россию. По данным консалтинговых агентств, только в прошлом году в Россию на заработки уехали 1—1,3 миллиона белорусов — это ни много ни мало треть трудоспособного населения. В текущем году уезжает явно не меньше. Их не останавливают угрозы властей выставлять повышенные счета за медицинские и социальные услуги, ввести налог на безработных или недавно введенное увеличение трудового стажа в Беларуси до 10 лет для лиц, претендующих на минимальную пенсию. Премьер-министр уже приглашает на работу ткачих из Бангладеш. Скоро вся Азия будет у нас.

Для того чтобы несознательные белорусы покупали отечественную продукцию и не тратили миллиарды долларов за границей, власти, с подачи президента, подготовили простое и асимметричное решение сложной проблемы: каждый выезжающий на шопинг за кордон выложит сотню долларов с носа. И неважно, что до этого не додумались ни в одном государстве, что это нарушение прав человека и против всякого здравого смысла. Заодно и бюджет пополнится, ведь средняя зарплата по стране перевалила за 600 долларов.

Продолжаются калийная и мясо-молочная войны с Россией. Обнадежил лишь глава "Роснефти" Игорь Сечин, пообещав доставить недостающую нефть на белорусские НПЗ железнодорожным транспортом. Однако, скорее всего, этот вопрос будет решаться в самых верхах. Не испортила картину и инфляция, показав за август рост цен 0,1%. Они снизились на продовольствие, но не остановились в росте на услуги и промышленную продукцию. Надо заметить, что август почти в любом году самый низкоинфляционный месяц. Это месяц мертвого сезона и сбора урожая.

Однако реальная экономическая ситуация нисколько не смущает разработчиков прогноза развития экономики страны на следующий, 2014, год. Их железной выдержке можно позавидовать. Вкладчики задаются вопросом, не пора ли уводить все-таки рубли с банковских депозитов — курс рубля пробил 9000-ный рубеж за "зеленый" и 12.000 за евро? Инвесторы после ареста видного российского бизнесмена сторонятся Беларуси еще больше, чем ранее. Россия на этой почве готова отказать в финансовой поддержке. Но политический и экономический курс остается неизменным. Прирост ВВП намечен 5,7%, средний курс доллара заложен 9500 рублей, инфляция — 11%, ставка рефинансирования — 16—17%. Сальдо торгового баланса (по расчетам) будет положительным в размере 0,3 миллиарда долларов, на 11,4% увеличится экспорт. Рост производительности труда, как и в предыдущих прогнозах, как и положено, запланирован с опережением увеличения зарплаты. Соответственно 9,4% и 7%. Но неизменна и старая тенденция — все в большей мере эти планы расходятся с реальностью... Им не верят население, специалисты. Думается, и сами разработчики.

Есть, однако, и добрые вести. По сообщениям СМИ, Сулейман Керимов все-таки продал свою долю в компании "Уралкалий" петербургскому банкиру Владимиру Когану. По завершении этой сделки якобы будет освобожден гендиректор "Уралкалия" Владислав Баумгертнер, и Москва не будет применять свои санкции по нефти, мясу и молоку. Вслед за Сечиным, будто по команде, Беларусь на днях посетили глава "Газпрома" Алексей Миллер и руководитель российского "Сбербанка" Герман Греф, которые заверили президента Беларуси в своих самых добрых намерениях. Похоже, перемирие двух "братских" и все более похожих друг на друга союзнических режимов, которые опять только подсчитают раны, все же будет. Тогда удержаться на плаву мы сможем. Искусственно...

НАДВОР'Е

## *Дажджлівы настрой*

*Дажджлівае надвор'е чакае беларусаў на гэтым тыдні. Пра гэта ў панядзелак на відэабрыфінгу паведаміла дзяжурны сіноптык Рэспубліканскага гідраметэацэнтра* ***Алена Хадачынская.***

*"Пачатак працоўнага тыдня выдасца цалкам камфортным, аднак у далейшым надвор'е настроіцца на дажджлівы лад",* — адзначыла сіноптык.

Паводле яе слоў, ужо ў аўторак 17 верасня ападкі прыйдуць у цэнтральныя і заходнія рэгіёны Беларусі, а ў далейшым — у сераду і чацвер — ахопяць усю тэрыторыю краіны. Дажджы чакаюцца на большай частцы тэрыторыі, месцамі — моцныя.

У начныя і ранішнія гадзіны будзе згушчацца туман.

Тэмпературны фон на працягу тыдня чакаецца ў межах кліматычнай нормы: у начныя гадзіны — ад 6 да 13 градусаў цяпла, днём у асноўным будзе плюс 11—18 градусаў. У сярэдзіне тыдня на ўсходзе краіны тэмпература паветра будзе павышацца да 19—21 градуса.

# Украіна ідзе ў Еўропу!

*Прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч заявіў пра тое, што яго краіна ўступае ў асацыяцыю з Еўрапейскім Саюзам. Наша суседка зрабіла лёсавызначальны крок. А што ж мы, беларусы? Куды мы ідзём? Які лёс нас чакае?*



***(Працяг тэмы на стар.5.***

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

## Хапалі за... памяць

Сваякоў і сяброў загінуўшага ў СІЗА на вуліцы Валадарскага мінчаніна Ігара Пцічкіна будуць судзіць. Толькі за тое, што яны ў мінулыя выхадныя вырашылі правесці ля ізалятара хвіліну памяці.

13 удзельнікаў акцыі памяці затрымалі непасрэдна ля следчага ізалятара, яшчэ пяцярых — на вуліцы Нямізе. У тым ліку была затрымана цяжарная сястра загінуўшага.

21-гадовы мінчанін Ігар Пцічкін загінуў пры нявысветленых акалічнасцях у СІЗА №1 на Валадарскага. 12 верасня споўнілася 40 дзён з моманту яго смерці. Паводле афіцыйнай версіі, прычынай смерці стаў сардэчны прыступ. Аднак сваякі і сябры Пцічкіна мяркуюць, што ён памёр пасля жорсткага збіцця ў СІЗА.

У інтэрнэце былі размешчаны пасмяротныя фатаграфіі Пцічкіна, на якіх бачны вялікія гематомы на перадплеччах, запясцях, кісцях, у вобласці рэбраў, а таксама пашкоджанні ніжэй за калена. У Следчым камітэце сваякам Ігара паведамілі, што па факце яго смерці праводзіцца праверка.



Нагадаем, што Ігар Пцічкін — не злосны крымінальнік і не забойца. У ізалятар ён трапіў за тое, што ў нецвярозым стане сеў за руль. Аднак адтуль ужо не выйшаў. Ды і хто б ён ні быў, хапаць і судзіць людзей за тое, што ладзілі хвіліну памяці аб загінуўшым, — гэта прыкрае беларускае ноў-хаў.

### Дарэчы

Менавіта за такія ноў-хаў Аляксандр Лукашэнка стаў лаўрэатам Шнобелеўскай прэміі.

Цырымонія ўручэння Антынобелеўскай прэміі прайшла ў Гарвардскім універсітэце. Нагадаем, што яна прысуджаецца за найбольш сумніўныя дасягненні, "якія спачатку выклікаюць смех, а затым прымушаюць задумацца".

Лаўрэатам Антынобелеўскай прэміі міру 2013 года стаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Як растлумачылі арганізатары, ён быў "уганараваны" за забарону публічных апладысментаў, уведзеную пасля антыўрадавых пратэстаў у 2011 годзе, падчас якіх іх удзельнікі моўчкі апладзіравалі. Арганізатары асобна адзначылі выпадак, калі за ўдзел у "акцыі апладысментаў" суд у Гродне прыгаварыў да штрафу аднарукага чалавека.

КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

У панядзелак прайшлі першыя суды над затрыманымі сябрамі і сваякамі Ігара Пцічкіна. Двое з іх былі пакараны штрафам у 500 тысяч, сястра загінуўшага Ірына, якая знаходзіцца на дзявятым месяцы цяжарнасці, атрымала папярэджанне.

Ірына заявіла, што не згодна з прысудам і будзе яго абскарджваць, бо яна не рабіла ніякай масавай акцыі, а проста ішла па вуліцы з кветкамі і партрэтам свайго брата, а ў момант затрымання стаяла на скрыжаванні і чакала зялёнага сігналу святлафора.

Яна расказала, што сведкі па справе, самі міліцыянеры, пацвердзілі, што яна нічога не рабіла, не заклікала, што рэальна гэта не быў пікет.

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Адгукніцеся!

*Мы ўжо не раз пісалі: газета "Народная Воля" і сайт рэдакцыі — розныя рэчы. Вось ужо каторы месяц матэрыялы, якія друкуюцца на старонках выдання, выстаўляюцца ў інтэрнэт толькі праз два тыдні, для архіва, а не для аператыўнага азнаямлення.*

*Каб мець магчымасць рэгулярна трымаць у руках свежыя нумары "Народнай Волі", выйсце адно — падпісацца. Калі гэта зрабіць да 27 верасня, то ўжо з кастрычніка паштальёны будуць прыносіць Вам дахаты "Народную Волю".*

*Нагадваем: у некаторых чытачоў заканчваецца падпісны тэрмін. Не забудзьцеся, калі ласка, прадоўжыць падпіску на IV квартал.*

*Прыхільнікаў "Народнай Волі" чакаюць на пошце, а мінчан — яшчэ і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".*

***Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!***

ДАСЛОЎНА

*Штэфан ФЮЛЕ,*
*еўракамісар па справах пашырэння ЕС:*

**"Калі вы мяне спытаеце, ці хачу я бачыць прагрэс у Беларусі, адказ будзе вельмі ясны: так, я хачу бачыць прагрэс. Але цяпер я бачу шанц на прагрэс, ёсць пэўныя сігналы. Міністр замежных спраў Уладзімір Макей быў тут, у Арменіі. Гэта была добрая справа. Я павінен сказаць, што ён даў пэўныя канструктыўныя прапановы па "Усходнім партнёрстве". І я думаю, што далейшы ўдзел важны і для Еўрасаюза, і для Беларусі.**

**Добрая дыскусія пра дыялог па мадэрнізацыі. Гэта магчымасць для ўлад узяць удзел разам з грамадзянскай супольнасцю ў гэтым вельмі важным дыялогу па мадэрнізацыі Беларусі з дапамогай Еўрасаюза.**

**Але іншая справа — гэта лёс палітвязняў. Еўропа можа адкрыцца для Беларусі, але гэта залежыць ад вызвалення і рэабілітацыі палітвязняў. Гэта вельмі ясная палітыка ЕС, і я вельмі спадзяюся, што гэтыя сігналы напярэдадні саміту ў Вільнюсе не акажуцца ўпушчанай магчымасцю для Беларусі.**

**Таму што калі яны хочуць нейкі меседж ад мяне, вось ён: вы рухаецеся ў справе палітвязняў, а мы тады запускаем поўнамаштабныя праграмы мадэрнізацыі вашай краіны".**

# Іх лёс хвалюе Беларусь!



**Юрый Захаранка**
знік 5246 дзён таму



**Віктар Ганчар**
знік 5114 дзён таму



**Анатоль Красоўскі**
знік 5114 дзён таму



**Дзмітрый Завадскі**
знік 4819 дзён таму

РАСКЛАДЫ



# Второй после Путина

## *Кто такой Игорь Сечин и почему он не боится Александра Лукашенко?*

Президент России Владимир Путин арест в Минске генерального директора "Уралкалия" Владислава Баумгертнера прокомментировал скупо: *"...Затишье связано с тем, что мы хотим проблему решить, а не загонять ее в тупик, что очень легко сделать, начиная шум и гам по этому вопросу. Но проблема, конечно, должна решаться"*. Сразу после этого на более поздний срок было перенесено заседание Совмина Союзного государства — то есть встреча Михаила Мясниковича и Дмитрия Медведева, зато в ход пошла тихая, но тяжелая артиллерия.

Фамилия одного из тех, кто на прошлой неделе встречался с Александром Лукашенко, вызывает особый интерес. Это глава "Роснефти" Игорь Сечин. По данным российских СМИ, он ведет переговоры о покупке Мозырского нефтеперерабатывающего завода, он намерен получить монополию на поставки российской нефти в Беларусь, и даже выкупить акции "Уралкалия" у Сулеймана Керимова тоже якобы хочет он. Последнее предположение, правда, Сечин опроверг. А вот два первых — нет. Кто же этот человек, по сути, претендующий на то, чтобы взять под контроль большую часть белорусского бюджета, так как в значительной степени валютные поступления в него дает нефтепереработка?

Человек №2 в российской государственной иерархии — так говорят об Игоре Сечине эксперты.

Игорь Иванович Сечин — ближайший помощник Путина с незапамятных времен. Прозвище: Игорь Иванович Настоящий (Ненастоящий — это первый вице-премьер РФ Игорь Иванович Шувалов).

В первые восемь лет президентства Путина Сечин выполнял функции главы президентского секретариата. Именно от него зависело, какую бумагу Путин прочитает и с кем он встретится, а с кем нет.

Еще у Сечина репутация человека, который "съел Ходорковского". Придя к мысли, что тогдашний самый богатый человек в РФ — заклятый враг государства, Сечин, как говорят, сумел убедить в этом Путина.

После ухода Путина в Белый дом Сечин последовал за ним — уже в качестве заместителя и куратора всей российской энергетики. В кабинете Медведева места Игорю Сечину не нашлось. Более того, новым вице-премьером по энергетике стал враг Сечина Аркадий Дворкович. Но Игорь Иванович Настоящий нашел себе кресло получше — президента одной из самых крупных в мире энергетических компаний "Роснефть". И с тех пор схватка Сечин—Дворкович стала одной из главных интриг российской политики. Резонанс этой схватки мы наблюдаем даже в Беларуси: Дворкович объявил о сокращении поставок нефти в нашу страну на 400 тысяч тон, Сечин сначала выступил против сокращения поставок, теперь согласился на 200 тысяч тонн.

Игорь Иванович Сечин родился 7 сентября 1960 года в Ленинграде. В 1979—1984 годах учился в Ленинградском государственном университете. По образованию филолог-романист, преподаватель португальского и французского языков.

После окончания ЛГУ Сечин работал переводчиком в Мозамбике в структурах внешнеторгового объединения "Техноэкспорт", занимавшегося, по данным ряда СМИ, поставками оружия в Анголу и Народную Республику Мозамбик. Затем Сечин был военным переводчиком в Анголе. Некоторые СМИ указывали, что его работа в Африке была связана с деятельностью советской разведки.

В конце 1980-х годов Сечин работал в иностранном отделе ЛГУ. В 1988—1991 годах был сотрудником отдела породненных городов управления внешнеэкономических связей исполкома Ленсовета. В 1990 году в ходе дружественного визита в Бразилию делегации Ленсовета Сечин познакомился с помощником Анатолия Собчака Владимиром Путиным. Став замом Собчака, Путин взял Сечина к себе в аппарат, где тот в разных должностях работал с 1991-го по 1996 год.

В 1996—1997 годах Сечин продолжал работать в аппарате Путина, переехавшего в Москву и ставшего замуправделами президента России. Весной 1997 года Сечин, после назначения Путина на должность заместителя главы администрации президента — начальника Главного контрольного управления (ГКУ), возглавил общий отдел ГКУ. В 1998 году занял пост руководителя аппарата Путина, ставшего к тому времени первым заместителем руководителя администрации президента. В августе 1999 года Сечин стал руководителем секретариата Путина — сначала как первого заместителя председателя правительства, позднее — главы правительства РФ.

24 ноября 1999 года Сечин был назначен первым заместителем главы аппарата правительства Дмитрия Козака. 31 декабря 1999 года стал заместителем главы президентской администрации (при исполняющем обязанности президента России Путине). В июне 2000 года, после мартовского избрания Путина главой государства, Сечин стал заместителем главы его администрации, руководителем президентской канцелярии.

По данным прессы, Сечин активно вмешивался в экономическую политику России. В 2003 году при его непосредственном участии были сорваны попытки вынести на рассмотрение правительства вопрос о реформе курируемого Дмитрием Медведевым "Газпрома". В том же 2003 году некоторые аналитики предположили, что за уголовным преследованием НК "ЮКОС" стояли Сечин и президент "Роснефти" Сергей Богданчиков. В конце октября 2003 года глава президентской администрации Александр Волошин, по данным СМИ, поддерживавший в Кремле бывшего главу "ЮКОСа" Михаила Ходорковского, подал в отставку. Сечин, которого в СМИ называли инициатором произошедшего, сохранил свой пост, а новым руководителем администрации президента стал Медведев. В марте 2004 года Сечин был назначен заместителем руководителя администрации президента Российской Федерации — помощником президента РФ.

В феврале 2004 года Сечин был рекомендован в состав совета директоров НК "Роснефть", а 27 июля 2004 года был избран его председателем (впоследствии неоднократно переизбирался на этот пост, занимал он его и по данным на июнь 2009 года). Большинство аналитиков указывали, что приход Сечина на эту должность следует трактовать как подготовку компании к получению контроля над активами "ЮКОСа". В связи с его назначением СМИ писали о том, что еще в 1998 году филолог Сечин защитил в Санкт-Петербургском горном институте диссертацию на соискание степени кандидата экономических наук на тему "Экономическая оценка инвестиционных проектов транзита нефти и нефтепродуктов". В том же году в издательстве института была опубликована книга Сечина "Проблемы развития экспорта нефти и нефтепродуктов из Российской Федерации и формирования региональных проектов их транзита".

В 2005 году СМИ распространили информацию о том, что Сечину удалось расстроить официально заявленное Путиным слияние "Газпрома" и "Роснефти", благодаря чему компания Богданчикова осталась самостоятельным игроком на нефтяном рынке России.

В мае 2008 года, после официального вступления в должность нового президента России Медведева, Сечин стал исполняющим обязанности заместителя руководителя администрации президента РФ, а уже через несколько дней стал вице-премьером в правительстве Путина. В августе 2008 года чиновник возглавил правительственную комиссию по вопросам топливно-энергетического комплекса, воспроизводства минерально-сырьевой базы и повышения энергетической эффективности экономики.

В 2011 году, после того как президент Медведев поручил вывести всех министров и вице-премьеров российского правительства из советов директоров госкомпаний, Сечин покинул пост председателя совета директоров "Роснефти", а затем и сам совет. Тогда же он покинул пост председателя совета директоров ОАО "ИНТЕР РАО ЕЭС", который он занимал с 2008 года.

В мае 2012 года, после вступления в должность президента Путина и назначения Медведева председателем правительства, Сечин покинул пост вице-премьера. 23 мая совет директоров "Роснефти", согласно директиве Медведева, назначил Сечина президентом компании. В июне 2012 года Сечин также стал ответственным секретарем комиссии при президенте РФ по стратегии развития топливно-энергетического комплекса и экологической безопасности, которую возглавил лично Путин. В ноябре того же года Сечин был избран в новый совет директоров "Роснефти".

В ряде СМИ упоминалось, что Сечин обладает многомиллиардным личным состоянием. Сечин женат, его дочь Инга, выпускница Санкт-Петербургского горного института, замужем за Дмитрием Устиновым, сыном бывшего министра юстиции, ранее — генпрокурора России.

**Игорь МОРОЗОВ.**

SOS!

# Вечный огонь погас

***Новое здание "Музея Великой Отечественной войны" строится, шумиха вокруг будущего грандиозного комплекса не умолкает. Не жалко государству денег и на "Линию Сталина", которой никогда не существовало. А тем временем по-настоящему памятные места, места страшных трагедий, приходят в запустение, разваливаются, стираются с лица Беларуси.***

Всем известно, что во время Великой Отечественной войны для порабощения и уничтожения людей гитлеровцы создали систему концентрационных лагерей. Как правило, заключенные жили в таких местах недолго — тех, кто не умирал от голода или болезней, гитлеровцы расстреливали, умерщвляли в "душегубках", сжигали в специальных печах.

Всего на территории Беларуси было свыше 260 лагерей смерти и их филиалов. Но самым крупным являлся Тростенецкий. По количеству жертв он занимает четвертое место после таких печально известных нацистских лагерей, как Освенцим, Майданек и Треблинка. Всего в Тростенце гитлеровцами были замучены, расстреляны и сожжены более 200.000 человек! Вот где настоящее место печали, скорби, памяти! Вот где должны быть грандиозные мемориальные комплексы! Но...

Сегодня о месте нахождения лагеря "Тростенец" напоминает всего несколько памятных знаков, которые установлены еще в 1960-х годах: в урочище Благовщина (тут было место массовых расстрелов), в урочище Шашковка (на месте массового сожжения людей) и в деревне Малый Тростенец (здесь, собственно, и находился сам лагерь смерти).

Главная часть заложенного тогда мемориального комплекса — обелиск. Он стоит до сих пор. Хотя правильнее сказать — просто разваливается на территории деревни Большой Тростенец. Сам обелиск давно не чистили, он покрыт трещинами, на нем имеются многочисленные сколы, плитка вокруг памятника рассыпается. А вечный огонь, который и является знаком памяти и почитания погибших, и вовсе потушен. Как выяснилось, его зажигают только по праздникам.

Оказывается, это место ежедневно посещают десятки человек. Отнюдь не туристы, не родственники погибших, не их потомки. Местная молодежь облюбовала остатки мемориала, чтобы на лавочках посидеть да пивка попить. А попив, весь мусор оставляет здесь же. Что, впрочем, не удивительно. Потому что мусорка тут всего одна, да и она почему-то спрятана в кустах.

С начала 2000-х годов идут разговоры о превращении этого места в полноценный мемориальный комплекс. Есть даже постановление правительства от 22 мая 2002 года №654 "О создании мемориального комплекса "Тростенец". Согласно этому проекту, планируется создание "Кургана Прозрения", "Долины Памяти", зоны "Земля Страданий и Надежд", площади "На пороге неизвестности" и многого другого. На бумаге все великолепно. Но в реальности имеется не грандиозный мемориал, а просто свалка, давно погасший огонь памяти и разваливающиеся от старости памятники.

**Марта МАХУН.**
**Фото автора.**







ЧУЛІ?

## *Афрыканская чума свіней: новыя забароны*

*У Беларусі вырашана прыняць дадатковыя захады супраць афрыканскай чумы свіней і іншых хвароб жывёл.*

Згодна з пастановай Савета міністраў, у Крымінальны кодэкс і КаАП будуць унесены змены, якія ўзмоцняць адказнасць за неапавяшчэнне пра падзеж і захворванні жывёл, за вытворчасць, продаж або выкарыстанне недабраякасных кармоў і кармавых дабавак, парушэнне карантынных правілаў і абмежаванняў, а таксама іншых ветэрынарных правілаў.

У населеных пунктах, у якіх зарэгістравана АЧС, забаронена ўтрыманне свіней на асабістых падворках грамадзян, а таксама на падворках работнікаў жывёлагадоўчых аб'ектаў. Гэтая забарона працягнецца не менш за 6 месяцаў пасля забою ўсіх свіней і правядзення комплексу ветэрынарна-санітарных мерапрыемстваў.

Забаронена рэалізацыя жывых свіней (акрамя маладняку) са свінагадоўчых комплексаў. Іх можна толькі здаваць мясаперапрацоўчым арганізацыям.

Забаронена рэалізацыя без узгаднення з дзяржаўнай ветслужбай свініны і прадуктаў з яе, а таксама кармоў. Гэта могуць рабіць толькі мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы. Нельга імпартаваць гэтую прадукцыю з краін, у якіх адзначана АЧС. Забаронены неарганізаваны гандаль свінінай.

Міністэрству па надзвычайных сітуацыях загадана набыць абсталяванне для дэзынфекцыі.

НАРОДНЫ ФРОНТ: У ПАДЗЕЯХ І АСОБАХ

# Чвэрць стагоддзя таму…

У пазамінулым нумары "Народнай Волі" са Зваротам з нагоды 25-годдзя стварэння Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" выступілі тыя, хто належаў да заснавальнікаў гэтага руху, хто не проста ўдзельнічаў у легендарным пасяджэнні грамадскасці 19 кастрычніка 1988 года, а ўвайшоў у аргкамітэт першай ад часоў смерці Сталіна апазіцыйнай арганізацыі ў Беларусі. Як сябра БНФ з 1989 года, а пэўны час і кіраўнік гэтага руху, безумоўна, падпісваюся пад кожным словам аўтараў Звароту, сярод якіх ёсць і маладзейшыя за мяне асобы.

Беларускі Народны Фронт не быў "кабінетнай выдумкай": ад пачатку 1980-х гадоў у розных мясцінах Беларусі ўзнікла нямала суполак, як раней казалі, "па інтарэсах", аснову якіх утварала актыўная беларуская моладзь. Нехта дапамагаў археолагам у раскопках, нехта ўзнаўляў старадаўнія беларускія святы і абрады, нехта ладзіў "суботнікі" па добраўпарадкаванні гістарычных частак гарадоў, нехта распаўсюджваў "перабудовачную літаратуру" па фабрыках і заводах... Але адзіным і ўплывовым гэты рух стаў тады, калі да яго далучыліся вядомыя асобы, якія жылі Беларуссю, верылі ў яе лепшую, суверэнную і еўрапейскую будучыню.

Не магу тут не ўзгадаць тых сябраў першага Аргкамітэта Народнага Фронту, хто ўжо не мог паставіць подпіс пад згаданым Зваротам, бо адышоў у лепшы свет. Маё асабістае знаёмства з **Васілём Быкавым** адбылося ўжо тады, калі я сам далучыўся да руху Беларускага Народнага Фронту. Для Быкава, без усялякага сумневу, галоўным жыццёвым заняткам была літаратура, і тым не менш справа Народнага Фронту была для яго той надзеяй, дзеля якой было варта жыць. Быкаўскія словы "За імі — сіла, за намі — праўда" будуць падтрымліваць не адно пакаленне беларусаў, не абыякавых да таго, што робіцца на роднай зямлі.

Доктар філасофскіх навук **Уладзімір Конан** запомніўся як чалавек надзвычай глыбокі і натуральны ў сваёй беларускасці. Уладзімір Міхайлавіч быў шчырым вернікам, праваслаўным, але ў яго душы жыла і вера ў тое, што патэнцыял беларускай духоўнасці здолее аб'яднаць нашу нацыю не толькі ў самыя крытычныя для яе часы.

**Канстанцін Тарасаў,** "тэхнар" паводле сваёй асноўнай адукацыі, з маладых гадоў захапіўся беларускай гісторыяй; гэтае захапленне пакупова пачало рэалізоўвацца ў яго творах гістарычнай тэматыкі, па якіх мы, пакаленне маладзейшае, працягвалі адкрываць для сябе старадаўнюю Беларусь пасля заўчаснай смерці незабыўнага Уладзіміра Караткевіча. Тарасаў быў для мяне ўзорам сапраўднага народжанага ў горадзе беларускага інтэлігента — нешматслоўнага, спакойнага, які, перш чым уступіць у дыскусію, шукаў неабвержных аргументаў, а інакш проста ў гэтую дыскусію не ўступаў.

Усе, хто памятае масавыя акцыі БНФ канца 1980-х — сярэдзіны 1990-х гадоў, іх выключна таленавітае мастацка-палітычнае афармленне, павінны ведаць, што галоўным натхняльнікам гэтай справы быў сціплы і малапрыкметны ў звычайным жыцці чалавек — **Яўген Кулік**. У дачыненні да яго нехта можа сказаць, што, маўляў, ён вылучаўся рэзкасцю і катэгарычнасцю. Але ж гэта не так! У Яўгена душа балела толькі за адно — за любую яму Беларусь. Добра запомнілася тое, што інакш, як "Лявонка", да мяне ён не звяртаўся...

Канец 1990-х гадоў. Пры падтрымцы Беларускага ПЭН-Цэнтра ў Віцебск прыязджае дзеля сустрэч з віцябчанамі, можна сказаць, "ударная брыгада" нашай сучаснай літаратуры — Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Арлоў, Алесь Разанаў, Сяргей Законнікаў, Васіль Сёмуха... Адна з сустрэч адбываецца ў будынку Дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа. Перад пачаткам імпрэзы да мяне падыходзіць невысокі, вонкава малапрыкметны чалавек: "Добры дзень, спадар Лявон! Я — **Валерый Маслюк**, галоўны рэжысёр тэатра, у 1988 годзе ўваходзіў у Аргкамітэт па заснаванні Народнага Фронту. Паслухайце, давайце мы пачнём сустрэчу крыху пазней, бо тут ёсць пэўная ідэя..."

Кабінет Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, у якой я пэўны час выконваў абавязкі намесніка старшыні. У дзверы стукаецца і ўваходзіць чалавек — тады яшчэ малады, але старэйшы за мяне. "Вы — Лявон Баршчэўскі? Мяне завуць **Алесь Емяльянаў**. Я — франтавец ад самага пачатку, сябра Аргкамітэта БНФ. Але сёння нам трэба думаць пра тое, каб у краіне фарміравалася сапраўдная шматпартыйнасць, бо без гэтага дэмакратыя не пераможа. Беларускі Народны Фронт — гэта сёння шырокі рух, і антыкамуністычны, і экалагічны, і нацыянальны. А пытанні пабудовы менавіта нацыянальнай дзяржавы павінны быць галоўнай мэтай Нацыянальна-дэмакратычнай партыі, якая павінна пераняць ідэі "нацдэмаў", знішчаных у 1930-я гады..." — "Шаноўны Алесь, — адказваю, — калі ініцыятары стварэння такой партыі ёсць і маюць намер сур'ёзна працаваць, хто ж будзе супраць? Але, беручыся за такую справу, трэба ўсё зважыць і належна ацаніць свае сілы і магчымасці. Зрэшты, нацыянальная ідэя павінна легчы ў аснову дзейнасці любой партыі ў суверэннай Беларусі".

Нацыянальна-дэмакратычная партыя ў Беларусі была ўсё-такі створана. А крыху пазней на глебе адраджэння нацыянальнай ідэі ўзнікла і яшчэ адна партыя — Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада. Чынны ўдзел у гэтым працэсе ўзялі дзве асобы, якія належаць да самых выбітных археолагаў і гісторыкаў у нашай гісторыі.

Прафесар **Міхась Ткачоў** уражваў не толькі сваімі энцыклапедычнымі ведамі, але і нейкай асаблівай грунтоўнасцю і надзейнасцю (тады мала хто ведаў, што да яго падступалася ўжо невылечная хвароба). Пярэчыць Ткачову цяжка было нават высокім партыйным начальнікам. Калі ў 1992 годзе востра паўстала пытанне прыняцця беларускай прысягі афіцэрскім складам былой Беларускай вайсковай акругі, а на той момант ужо арміі незалежнай дзяржавы, памятаю, як Міхась Ткачоў сказаў: "Трэба падштурхнуць урад паварушыцца. Давайце арганізуем урачыстае прыняцце прысягі ўсімі ахвотнікамі, дзейнымі вайскоўцамі і тымі, хто ў запасе. І зрабіць гэта варта ў дзень 8 верасня, калі адбылася пераможная і вельмі важная для нашай гісторыі Аршанская бітва, і зрабіць на плошчы Незалежнасці!" Усяго праз два з паловай месяцы пасля таго, як ідэя Ткачова здзейснілася, яго не стала. Жалобная цырымонія развітання з гэтым выбітным чалавекам праходзіла ў сталічным Доме літаратара, на ёй прысутнічалі тагачасны кіраўнік дзяржавы Станіслаў Шушкевіч, прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, міністры, дэпутаты Вярхоўнага Савета ад усіх фракцый. Адпяванне нябожчыка ўзначаліў мітрапаліт Філарэт.

**Міхась Чарняўскі,** адзін з першаадкрывальнікаў далетапіснай Беларусі, чалавек, які здолеў ўратаваць для нашчадкаў "Споведзь" Ларысы Геніюш, быў не толькі надзвычай таленавітым даследчыкам, але і вельмі грунтоўнай асобай, шмат у чым падобнай да Ткачова. Перад Чарняўскім таксама блякла пыха і "веліч" камуністычных і лукашэнкаўскіх начальнікаў, ахвотнікаў выдаваць белае за чорнае, а чорнае за белае... У пакаленні першых народафронтаўцаў месца Ткачова і Чарняўскага зусім побач з месцам, якое займаў Васіль Быкаў.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

КРЫМІНАЛ

## *Жудаснае забойства ў Глуску*

У мінулыя выхадныя гэта здарэнне стала тэмай нумар адзін. У Глуску знайшлі забітымі маладую жанчыну і яе трохмесячную дачку.

У панядзелак ужо прыйшло паведамленне, што падазроны ў гэтых злачынствах узяты пад варту.

*"У ходзе праведзеных аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў устаноўлена, што 7 верасня ў 23.00 мужчына ў сваім доме ў сварцы забіў іх адвёрткай, пасля чаго на аўтамашыне вывез целы паблізу вёскі Хвастовічы і закапаў"*, — гаворыцца ў афіцыйным паведамленні МУС.

Узбуджаная раней крымінальная справа па ч.2 арт.182 "Выкраданне чалавека" перакваліфікавана на ч.2 арт.139 "Забойства" Крымінальнага кодэкса".

ПО ПОВОДУ

## А теперь ищут стрелочника

Изо дня в день по радио и телевидению показывают и рассказывают про авантюру с “Уралкалием”. Кому только не лень высказывают мысль, что нашу калийную отрасль хотел захватить какой-то бизнесмен Керимов и К°. Беларусь, мол, понесла ущерб в размере 100 миллионов долларов. Но, думается, истинную причину так и не называют.

Да, Керимов и его компания, возможно, — это нечестные люди. Уже раньше прибрали к рукам другие предприятия по производству удобрений в России.

Знали ли наши менеджеры об этом? Знали, но на что надеялись, когда шли на сотрудничество с ворами (по крайней мере сейчас так говорят)? Здесь не обошлось без ведома высшего руководства, которое дало зеленую улицу сомнительному сотрудничеству. А сейчас ищут стрелочника в “Беларуськалии”.

**Л.МАРИЯН.**

*г.Борисов.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Моўныя праблемы прыдумалі нацдэмы

**“У школе даюць дастатковыя веды па беларускай мове”, — з такой заявай выступіў старшыня Міжнароднага і Беларускага камітэтаў славістаў, член-карэспандэнт НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец. Між тым сёлета на цэнтралізаванае тэсціраванне па беларускай мове запісалася ў два з паловай разы менш абітурыентаў, чым па рускай.**

*З усіх палос крычыць газета:*
*— На “мове” ўлада ставіць крыж!*
*А ён цяўпе:*
*— Няпраўда гэта.*
*Прасцяг для “мовы”. Нават звыш.*
*Бацькі турбоцяцца:*
*— На “мове”*
*Дзяўчынка вучыцца адна*
*У беларускім Магілёве!*
*А ён адказвае:*
*— Мана...*
*— Чаму ж, калі ідуць на тэсты,*
*Дык выбар большасцю — “язык”?*
*А ён мармыча слоў заместа:*
*— Хлусня... Нацдэмны нейкі бзік...*
*— Расійскія*
*У крамах творы,*
*Амаль няма на “мове” кніг!*
*А ён далдоніць год каторы:*
*— У магазінах горы іх...*
*Ён проста чуць і знаць не хоча,*
*Што стала чорнай паласа,*
*І калі нехта плюне ў вочы,*
*Ён скажа:*
*— Божая раса...*

* * *

*Сцвярджацьме хтосьці недалёкі,*
*Не варухнуўшы нат брывом,*
*Што заўтра бацька пойдзе ў скокі,*
*Хоць ён ляжыць пад абразом...*

## За вялікія грошы будзе Ленін харошы

**На рамонт помніка Леніну і добраўпарадкаванне прылеглай да яго тэрыторыі ў Гомелі з мясцовага бюджэту выдзелена больш за 600 мільёнаў рублёў. Многія гамяльчане абураны такімі тратамі на сімвал камунізму.**

*Неяк педагогі талакою*
*Прывялі на плошчу дзетвару,*
*Дзе стаіць з працягнутай рукою*
*Помнік-манумент правадыру.*
*Выгляд манумента вельмі ўбогі,*
*Бачна: патрабуецца рамонт.*
*І сказалі дзецям педагогі*
*Леніна нягеглага наконт:*
*— Вельмі непрывабны від ягоны,*
*Помнік прыхарошыць трохі след,*
*І таму належныя мільёны*
*Выдзеліць для Леніна бюджэт.*
*І мільёнаў тых, прызнацца, многа...*
*Міма ў акулярах маладзён*
*Крочыў,*
*І на словы педагога*
*Рэпліку з сарказмам кінуў ён:*
*— Не было ў душы маёй спакою,*
*Бо раней не мог даўмець ніяк:*
*А чаму з працягнутай рукою*
*Ён стаіць заўсёды, як жабрак?*
*Гэта ж, мусіць, просіць сёння Ленін,*
*Каб грашыма хтосьці дапамог.*
*Хай бы стаў яшчэ і на калені,*
*Кепачку паклаўшы каля ног...*

* * *

*Будзе Ленін чысцінёй свяціцца,*
*Аглядаць з ухмылкай з-пад рукі*
*Чэзлыя, аблезлыя бальніцы,*
*Без рамонту школы і садкі...*

## Мільёны на пагоны

**Драматурга Андрэя Карэліна аштрафавалі на 7 мільёнаў рублёў. На судзе адзін з міліцыянтаў сказаў, што быў абражаны ў інтэрнэце словам “вальяжный”. У перакладзе на беларускую мову — “важны”, “самавіты”, “салідны”.**

*Ёсць да міліцыі ў народзе*
*Папрокаў шмат і пахвалы:*
*Заслуг перад народам годзе,*
*І шлейф ганебны немалы.*
*У лёсе драматурга, пэўна,*
*Той “шлейф” пакінуў нейкі след.*
*І ён аднойчы палка, гнеўна*
*Накрэмзаў штосьці ў інтэрнэт.*
*І міліцэйская адразу,*
*Як кажуць, закіпела кроў,*
*Бо палічылі за абразу*
*Адно са звыклых, простых слоў.*
*“Салідны”, “важны”, “самавіты”...*
*Хоць на пагонах зоркі дзве,*
*Ці ж сёння люд наш паспаліты*
*Міліцыянтаў так заве?*
*Хіба што толькі генерала*
*Так узвялічвалі спрадвек.*
*Астатнім жа пашаны мала...*
*А значыць, слова тое — здзек!*
*І суд наш справядлівы самы*
*“Даў драматургу ад душы”.*
*У тым яму сюжэт для драмы,*
*Ці вадэвіль сядзі-пішы.*
*Трэ аднаўляць бюджэт ягоны*
*(Ён страціў не адзін мільён),*
*Бо ў тых, хто начапіў пагоны,*
*Задужа бедны лексікон.*

* * *

*Выходзіць, будзе меншым злом,*
*Як назавеш “мянтом”, “казлом”...*

МНЕНИЕ

## Я — за обновление!

Здравствуй, “Народная Воля”!

Когда получил первый номер газеты, вышедший в цветном варианте, охватило какое-то волнение, появилось желание взяться за перо, чтобы выразить признательность редакции, сказать: “Молодцы!”. За то, что в сложнейшей ситуации, без поддержки со стороны государства, не только сохраняете издание, но и придали ему современный облик.

Понятно, всякое новшество требует денег, которых, естественно, в редакции нет, поэтому ей пришлось пойти на непопулярный шаг, поднять цену подписки, что, как подчеркнул в одной из колонок главный редактор, не всем пришлось по душе.

Я все же считаю иначе. Газета должна развиваться, совершенствовать дизайн. И нам, читателям, следует всячески поддерживать “Народную Волю”. Кто еще не подписался на четвертый квартал — подпишитесь. Посодействуйте, чтобы так поступили ваши родственники, друзья, соседи, знакомые. Что до меня, то я свой выбор сделал.

Уважаемая “Народная Воля”, ты продолжишь приходить в мой дом и в четвертом квартале, и в следующем году. Так что я — за обновление!

Сотрудникам редакции желаю здоровья, семейного благополучия, пусть Господь Бог не оставляет вас!

**Иосиф НАЛИВАЙКО,**
**житель деревни Мазолово**
**Мстиславского района.**

ИЗ ПИСЬМА

## Поздравления будут стоить более 120 тысяч рублей

В “Народной Воле” за 6 сентября помещена заметка “Адно слова — жабракі”. Это на самом деле так. Особенно заметно подскочили тарифы на отправку простых писем в страны СНГ. Так, чтобы послать одно письмо-поздравление в Украину или Молдову однополчанам, я должен заплатить за марку 6800 рублей, плюс стоимость конверта и открытки. Помнится, стоимость обычной почтовой марки когда-то была четыре копейки, удорожание в 170.000 раз.

А у меня так складываются обстоятельства, что к праздникам — к Новому году, к 23 февраля, к Дню Победы, ко дням освобождения многих городов Украины и Молдовы — я должен написать 15—20 писем, и это стоит более 120.000 рублей.

Уверен, что такое удорожание отправки обычных писем ничем не оправдано. В прошлые годы ветеранам войны была какая-то скидка — теперь и этого нет.

**Лев Самсонович АНЦЕЛИОВИЧ,**
**инвалид войны, почетный гражданин города Кременная Луганской области, Березнеговатского района Николаевской области, города Кауштаны (Молдова).**

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ



## Собачья жизнь

Давно знаю Л.М.Мороговскую, автора статьи о животных, как человека, искренне любящего животных, и готова согласиться с каждым ее словом. Но только мне непонятно, как уважаемая Лариса Михайловна видит на практике механизм введения дорогих лицензий на разведение и продажу животных? Кто должен отслеживать эту ситуацию (соседи, дворники, сантехники и т.п.)? Не предлагает ли она введение доносительства и слежки, что недостойно порядочных людей?

Что же касается предложения о принятии программы стерилизации животных, то она существует, и ее уже несколько лет осуществляет общественная организация “Спасение животных”. Но опять-таки: стерилизация животных — добровольное дело хозяев, и она не так безобидна, как кажется на первый взгляд. (А чипирование и вовсе дело дорогостоящее...)

Согласна с автором статьи о том, что решение проблемы животных — дело не только общества, но и государства: пока оно не озаботится ею — ничего не изменится. Но, как мы видим, государство ничего менять не желает, а если и принимает какие-то меры, то ужесточающего характера.

Где же тут быть оптимизму?

**Розалия РУБИНЧИК,**
**пенсионерка, зоозащитник.**

*Минск.*

ДАЛЁКАЕ-БЛІЗКАЕ

*Пётр САДОЎСКІ,*
*былы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Германіі*



# Беларускія калійныя гісторыі: мухлёж пачынаўся не сёння

## Сённяшнія восеньскія жарсці

Увосень нашы дачнікі дружна купляюць азотна-фосфарна-калійную сумесь пад зімовыя часнок і цыбулю. Называюць гэта адным словам — “комплексныя”. У сезон іх нават не заўсёды купіш, ды і цэны растуць, як восеньскія грыбы. З гэтай прычыны для не вельмі багатых беларускіх грамадзян, якія на дачах не толькі адпачываюць, але і здабываюць хлеб штодзённы, гісторыя з “Уралкалием”, “Беларускаліем” і Беларускай калійнай кампаніяй (БКК) робіцца надта блізкай. Усе клянуць “нярускіх алігархаў” Керымава ды Баўмгертнера, нават слоўца “рэйдарскі захоп” ужываюць.

Пішучы гэтыя своеасаблівыя “эканамічныя” ўспаміны ў “Народную Волю”, выконваю і абяцанне, дадзенае маім сталым знаёмым па электрычцы Мінск—Маладзечна і суседзям-дачнікам. На грунтоўную спрэчку на пероне і ў дарозе не хапае часу: еду я толькі да Крыжоўкі. Прычына спрэчак да смеху простая: большасць маіх знаёмцаў проста з большай ці меншай дакладнасцю пераказваюць пачутае і ўбачанае вечарам на БТ. Рэдка хто пытаецца: “А што, за 20 гадоў так і не навучыліся самі прадаваць?” Дзяржаўныя СМІ пра гэта маўчаць.

Шчыра прызнаюся, пачуўшы ўпершыню гісторыю пра БКК і Керымава, я таксама здзівіўся: няўжо дагэтуль чужыя, выключна расійскія, дзядзькі сядзелі на апошнім звяне гэтага грашовага ланцуга? Адышоўшы ад палітыкі, як большасць абывацеляў, я быў упэўнены, што тут наша суровая дзяржава мышы не прапусціць. Цяпер пытаюся: чаму не рыхтавалі сваіх спецыялістаў-менеджараў? Куды глядзела цэлае войска кантралёраў, кадэбэшнікаў, фінансавых аўдытараў, прадстаўнікоў фрахту? Гэта ж трэба: не на тыя караблі грузілі і не туды адпраўлялі! Бралі крэдыты пад нашу будучую здабычу, а мы нічога не ведалі? Нешта тут не так! Наш жа прэзідэнт цалаваўся з Керымавым і перад Народным сходам хваліўся сваім сяброўствам “с богатейшим человеком России”... Нейкая замутнёная вада атрымліваецца. Нехта ж з “нашых” тут добра парыбачыў. Лукашэнка абяцаў, што яшчэ будуць новыя пошукі і пасадкі. А што было да Лукашэнкі?

## Мутныя воды 1990-х

СССР трашчаў, захлынаючыся ў знешніх даўгах. Масква гнала сыравінны экспарт на долары. Рэспублікі не кантралявалі нічога.

Так сталася, што ў 1990—1992 гг. я быў старшынёй Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях ВС БССР, а потым ужо і РБ (12-га склікання). Быў я — адпаведна статусу старшыні Камісіі — членам Прэзідыума. Быў я, паводле сумлення і логікі, і членам Апазіцыі БНФ, бо абіраўся на платформе гэтага руху. Членства ў Прэзідыуме давала даволі шырокія паўнамоцтвы і аператыўны доступ да эканамічнай інфармацыі, у тым ліку і закрытай.

Цяпер “маладыя” 30- і 40-гадовыя аналітыкі, як і колішнія ветэраны, крытыкуючы БНФ “першага прызыву” і нашу групу ў ВС, пішуць: “Яны змагаліся толькі за сцяг, герб і беларускую мову”. Не, гэта зусім не так.

Калі мы з першага дня патрабавалі як найхутчэй утварыць дзяржаўныя межы, мытню, войска, свае грошы ды іншыя фармальныя атрыбуты дзяржаўнасці, мы зыходзілі з жахлівых фактаў раскрадання беларускай маёмасці. Уявіце сабе: года паўтара мы фактычна не мелі дзяржаўнай мяжы. Праз нашу тэрыторыю ў краіны Балтыі і Польшчу бескантрольна ішлі тавары на рээкспарт. Не маючы ні грама каляровых металаў, Літва і Латвія выйшлі тады ў еўрапейскія лідары па продажы каляровых металаў, Польшча ўвезла з Беларусі за 1991 год цэлы манблан азотных ды калійных угнаенняў, безліч кантрабандных цыгарэт, бензіну, тэлевізараў, веласіпедаў, сельгасінвентару, скур-паўфабрыкатаў, побытавых электратавараў і да т.п. З нашых аэрадромаў знікалі невядома куды самалёты, верталёты, з ангараў — цягачы, аўтамабілі, порах з падземных сховішчаў...

Як ні дзіўна, але мне тады было лягчэй атрымаць вострую інфармацыю ад старшыні КДБ генерала Эдуарда Іванавіча Шыркоўскага, чым ад Савета міністраў. Дагэтуль не знаходжу для сябе яснага тлумачэння, чаму ён так сябе паводзіў. Былі гэта нейкія беларускія інтрыгі ці інструкцыі з Масквы? Ці гэта было шчыра і асабіста? Народжаны на Стаўпеччыне, яшчэ, як кажуць, за польскім часам, маючы юрыдычную і спецыяльную савецкую чэкісцкую адукацыю, ён большую частку свайго жыцця правёў у Расіі. Спецыялізаваўся на барацьбе з кантрабандай і валютных аперацыях. Быў першым шэфам КДБ ў Рэспубліцы Беларусь. Фрагментарна гаварыў па-беларуску, са мной ва ўсякім разе. Аднойчы я нават чуў, як ён у Таварыстве дружбы ў Арсеня Ваніцкага спяваў пад баянны акампанемент генерала Ягорава (тады міністра ўнутраных спраў) “Бывайце здаровы, жывіце багата” і “Не шукай ты мяне”. Ведаю яшчэ, што ён быў супраць, каб мяне пасылалі амбасадарам у Германію.

У той час я імкнуўся атрымаць перш за ўсё інфармацыю пра так званыя канцэрны ды іншыя аб’яднанні, створаныя на базе міністэрстваў, якія ведалі рэсурсамі і мелі сувязь з замежжам. Ад Савета міністраў, як кажуць, паводле азначэння, такой інфармацыі было атрымаць немагчыма. У тыповае прамыслова-вытворчае аб’яднанне, створанае, напрыклад, у абласным цэнтры, маглі ўваходзіць: першы намеснік старшыні Савета міністраў, сакратар абкама партыі, загадчык валютнага аддзела СМ, дырэктар буйнога банка і некалькі маленькіх мясцовых дзялкоў. Так акумуляваўся першы дзяржаўна-прыватны капітал. У адпаведнай пастанове Саўміна дакладна вызначалася, якія памяшканні, аўтамабілі, узнагароджанні (у валюце!) і г.д. за кошт рэспубліканскага бюджэту могуць выдзяляцца такому аб’яднанню. Кантролю не было ніякага — ні маскоўскага, ні мясцовага партыйнага. Памятаю, тады пры дапамозе Шыркоўскага мне давялося разбірацца з аб’яднаннем “Усход”, зарэгістраваным ці то ў самім Магілёве, ці дзесьці ў вобласці. Сярод фундатараў там фігуравалі імёны самога прэм’ера Кебіча, Касцікава (ягонага намесніка), старшыні аблвыканкама ды іншых менш і больш вядомых асоб. Запомнілася, што Савет міністраў санкцыянаваў кіраўніцтву аб’яднання “Усход” у дадатак да афіцыйнага заробку сярод іншых ільгот выплату месячных заахвочванняў да 250 долараў. Фактычна самі сабе ж і дазвалялі.

Пазней пачалі з’яўляцца сумесныя прадпрыемствы з удзелам так званых замежных інвестараў. Гэта былі звычайна дробныя замежныя бізнесмены, не вельмі паспяховыя ў сябе на радзіме, што спрабавалі шукаць прыбытак у мутнай вадзе постсавецкіх дзяржаў. З нашага боку зноў жа выступалі дзеячы з Саўміна і міністэрстваў. Асабліва буялі здзелкі з бартарам. Яшчэ паводле савецкіх нормаў у бартарнай дакументацыі неабходна было дакладна адлюстроўваць тэрміны (звычайна 45 дзён), краіну, дакладныя даныя пра абодва бакі, сустрэчны тавар, банкаўскія рэквізіты і гарантыі. З нашага боку права даваць дазвол на бартарную аперацыю маглі каля дзясятка асоб: прэм’ер, намеснікі, міністр знешнеэканамічных сувязяў і некаторыя начальнікі саўмінаўскіх упраўленняў. Бартарным экспартным таварам з нашага боку звычайна былі: калійныя ўгнаенні, авіяцыйная газа, нафта, бензін, лес, азотныя ўгнаенні, — тавары, на якія цэны былі збольшага вядомыя паводле даных еўрапейскіх біржаў. Гэта — усё тыя ж тавары для так званых ф’ючарсных здзелак. Бартарная аперацыя магла цягнуцца замест прадугледжаных 45 дзён да цэлага года (у гэты час грошы пракручваліся некалькі разоў). Замест сустрэчнага бартару ў выглядзе дэфіцытных лекаў ці “хай-тэк” маглі прыйсці прасаваныя цюкі джынсаў сэканд-хэнд, аправы для акуляраў, касметыка. Больш за тое, яны маглі “прызямліцца” нават дзе-небудзь у Грузіі ці Малдове.

Кожныя тры дні даныя пра сярэднеаптовыя цэны я атрымліваў прыватна ад аднаго знаёмага немца праз факс: што дзеецца ў Амстэрдаме, Лондане, Франкфурце, Ратэрдаме, Гамбургу. Тады ў нас не было аператыўных камп’ютарных праграм з такой інфармацыяй. У ВС у нас быў толькі адзін факсавы апарат, які нашай камісіі прэзентаваў Сяргей Касцючэнка, кіраўнік “Прыёрбанка”. Пра электронную пошту яшчэ не марылі. Яна з’явілася пазней.

Нават з такім мінімумам інфармацыі ўдавалася сёе-тое зразумець. Аднойчы старшыня КДБ прынёс мне арыгінал формы №24 (разавая ліцэнзія на бартарную аперацыю), падпісаную намеснікам прэм’ера, а там — толькі назва нашай юрыдычнай асобы, краіна прызначэння і колькасць тавару — калійных угнаенняў. Няма ні назвы партнёрскай фірмы, ні сустрэчнага тавару, ні тэрмінаў, ні спосабаў пастаўкі, ні цаны за адзінку ўліку тавару, ні пункту паступлення сустрэчнага тавару і г.д. Як той казаў — круці што хочаш. Не ведаю, дзе ён яе ўзяў. Ці гэта была нейкая прынада для мяне?

Была яшчэ адна хітрасць: рэзкая змена курса рубля на працягу тэрміну, неабходнага для ацэнкі экспартнага ці імпартнага тавару ў цвёрдай валюце і ў рублях. Курсаў рубля было некалькі. Тут Цэнтральны банк пры Вінікавай (так тады называўся Нацыянальны банк) хутка знаходзіў паразуменне з дзялкамі, блізкімі да Савета міністраў. Можна нават было складаць пэўныя графікі залежнасці курса рубля/долара ад характару значных па аб’ёме экспартна-імпартных аперацый, у якіх фігуравалі знаёмыя персаналіі. З дапамогай майго колішняга завочніка з іняза (цяпер МЛГУ), што займаў даволі высокую пасаду на мытні, я спрабаваў рабіць такія “графікі” і пры Багданкевічу. Калі набіралася значная група тавараў для экспарту, дзе экспарцёрамі былі блізкія да СМ асобы ці “вытворча-экспартныя аб’яднанні”, якіх тады напладзілася безліч, на кароткі тэрмін устанаўліваўся нізкі курс рубля, каб забяспечыць большы чысты прыбытак за кошт большай масы скупленых беларускіх рублёў на атрыманыя долары ці закупкі адпаведнага тавару на беларускім рынку. Пры імпартных аперацыях, дзе фігуравалі “важныя” імпарцёры, курс рубля адпаведна мог пры неабходнасці ўзрастаць.

## Беларускі «спотавы» продаж калію на пачатку 1990-х

Бяру слова “спотавы” ў двукоссе не як гандлёвы тэрмін, а як беларускую з’яву, вельмі спецыфічную для знешнеэканамічнай дзейнасці на пачатку нашай дзяржаўнай незалежнасці. Звычайна гэтым словам абазначаюць буйныя разавыя гандлёвыя аперацыі, якія адбываюцца паралельна з так званымі ф’ючарснымі, што плануюцца праз дамовы на шмат гадоў наперад, — з больш-менш стабільнымі цэнамі, традыцыйнымі рынкамі, вядомымі вытворцамі і аптовымі пакупнікамі. Гэта — нафта, газ, зерне, металы, рыба, уран ды іншае. Сюды ж належаць і мінеральныя ўгнаенні. Усё гэта рэгулюецца міжнароднымі дамовамі і законам пра нядобрасумленную канкурэнцыю, антыкартэльным заканадаўствам, штрафамі і мытай за дэмпінг, абавязацельствамі захоўваць літару і дух двух- і шматбаковых дамоў і да т.п.

Шмат хто помніць анекдатычную гісторыю, як у Індыі сутыкнуліся на адным калійным тэндары дзве нашы дзяржаўныя экспартныя структуры — з Міністэрства сельскай гаспадаркі (дзяржаўную знешнегандлёвую фірму ўзначальваў тав.Дзядук) і Саўміна (кіраўнік — тав.Андрушын). У выніку дзяржава страціла значную суму — на кожнай тоне каля 10 долараў. Цэны на калій, як і на нафту, тады былі смехатворна нізкія ў параўнанні з коштамі, напрыклад, у 2008 г., што сягалі да 700 і больш долараў за тону.

У англамоўным часопісе “Поташ” на пачатку 1990-х гадоў з’явіўся матэрыял пра парушэнне антыкартэльнага заканадаўства ў галіне экспарту калійных угнаенняў, з якога, між іншым, вынікала, што хтосьці з беларускага боку падрабязна інфармуе канкурэнтаў пра стан вытворчасці і планы “Беларуськалія”. У часопісе былі нават змешчаны схемы магчымага закрыцця адпаведных салігорскіх руднікоў.

Цяжка сёння сказаць, быў гэта проста нейкі “ўкід інфармацыі” ці за гэтым стаяла нейкая праўда. Ясна, што калі гэта сапраўды рабілася, то рабілася гэта не задарма.

Былі нават меркаванні, што страйкі салігорскіх шахцёраў пад выглядам міжнароднай прафсаюзнай салідарнасці правакуюць прафсаюзы нашых замежных канкурэнтаў.

Як вядома, калійныя ўгнаенні купляюць краіны, дзе шмат супясчанай, сугліністай ды падзолістай глебы. Але на пачатку 1990-х гадоў беларускія ўгнаенні па дэмпінгавых коштах не купляў толькі лянівы. Рээкспарт буяў. Ужо будучы амбасадарам у Германіі, я прачытаў у эканамічным дадатку да “Франкфуртэр Альгэмайнэ Цайтунг”, што за 1991 год Беларусь экспартавала ў Польшчу ў 300 разоў больш калійных угнаенняў, чым тая мела ўласную патрэбу з улікам структуры глебы, на якой вырошчваліся каліялюбныя культуры. Зразумела, што потым польскі рээкспарт — ужо па вышэйшай цане — канкураваў з беларускім экспартам на беларускіх традыцыйных рынках. Добра памятаю прозвішча такога дзялка, як спадар Лучанскі, які атрымаў эксклюзіўнае права экспарту беларускіх калійных угнаенняў у Індыю ды Кітай. “Комсомольская правда” тады пісала, што свае першыя не вельмі чыстыя мільёны ён зарабіў у Малдове і Літве. Прыстаўшы да беларускага берага, ён ужо быў убурэлы і важны. Аднойчы я выпадкова бачыў, як яго ў аэрапорце на “Чайцы” сустракаў сам Мясніковіч, тады намеснік старшыні Савета міністраў.

Каля калійнага бізнесу на даволі доўгі час прыстроіўся і намеснік міністра абароны генерал-маёр Тушынскі, які таксама быў надзелены пэўнымі эксклюзіўнымі правамі. На заробленыя грошы нібыта куплялася новая тэхніка для войска. Ніхто тады нічога не кантраляваў. Памятаю, як я выпадкова стаў сведкам чыстага бессаромнага махлярства з боку Міністэрства знешнеэканамічных сувязяў (тады яно называлася Камітэт), калі начальнік упраўлення экспарту тавараў “двайнога прызначэння” проста “блытаў” у графе “цана за адзінку экспарту” лічбы, перастаўляючы коску на адзін прабел улева, зніжаючы памер выручанай сумы на матэматычны “парадак” — у 10 разоў. Гэтае ўпраўленне фактычна займалася распродажам велізарных рэштак савецкага ўзбраення і час ад часу атрымлівала дазвол “экспартнуць” трошкі і цывільных тавараў як “шырпатрэб” для “аператыўных выдаткаў”. Так побач з верталётам мог аказацца і карбамід. Вось у графе “шырпатрэб” можна было пераблытаць коскі.

Копіі накладных на тую здзелку я атрымаў канфідэнцыйна з Брэсцкай мытні і папрасіў Саўмін даць пісьмовае тлумачэнне, прывёўшы даныя пра цану карбаміду на еўрапейскіх біржах. Вельмі хутка мне патэлефанаваў старшыня Камітэту па знешнеэканамічных сувязях, сказаў, што начальнік упраўлення будзе пакараны за “неахайнасць” пры афармленні дакументацыі, і прасіў не раздзімаць скандал. Потым да мяне ў кабінет прыбег і сам гэты таварыш П., расхваляваны да пачарнення.

Прыблізна праз тыдзень мне патэлефанаваў Кебіч і прапанаваў пасаду Генеральнага сакратара СНД. Я адмовіўся, і гэтую пасаду потым па прапанове Шушкевіча заняў Каратчэня.

Пазней вельмі высокія асобы запрасілі мяне ў добрую лазню і першы раз прапанавалі паехаць амбасадарам у Германію або пайсці на пасаду прарэктара Інстытута замежных моў, каб праз паўгода стаць рэктарам. Усё рабілася вельмі далікатна. Ніхто не прагражаў, нічым не папракаў. Але было неяк вусцішна на душы. Я пачаў задумвацца над сваім далейшым лёсам. І паехаў амбасадарам у Бон.

**P.S.** Ужо калі быў напісаны гэты тэкст, чытаючы ў інтэрнэце матэрыялы нямецкіх СМІ пра выбарчую кампанію ў Бундэстаг, я сустрэў выпадкова цікавую аналітыку пра сённяшні стан нямецкага калійнага гіганта “K+S” і каментары на форумах “Гандэльсблат”, “Еўра”, і “Тагесцайтунг” пра беларуска-расійскія калійныя спрэчкі. Немцы не ўпэўнены, што беларусы выйграюць працэс. Паводле меркавання нямецкіх крыніц, адвакаты Баўмгертнера і менеджары “Уралкалия” тэрмінова і пераканаўча даводзяць сваім замежным контрагентам з дакументальным пацвярджэннем, што іх паралельныя спотавыя здзелкі не парушалі ні літару, ні дух двухбаковых дамоўленасцяў у межах СП БКК. І наадварот: беларусы, паводле іх інфармацыі, не дачакаўшыся даўно запланаванага “плаўнага разводу”, пачалі сакрэтна распрацоўваць доўгатэрміновыя схемы самастойнага продажу.

Нявсна, хто тут каго хацеў аб’ягорыць і хто, каго і як заахвочваў.



СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ



# Кветкі жыцця сям'і Пташэк

*Як польская сям'я Пташэк зарабляе на кветках, і чаму пакуль не збіраецца інвеставаць грошы ў беларускую эканоміку.*

*"Напэўна, так выглядае рай!"* — эмацыйна ўсклікнула перакладчыца, калі мы зайшлі ў аранжарэю, дзе вырошчваюць архідэі. Мора кветак, незабыўны пах...

Гэта суперсучасная фабрыка кветак знаходзіцца недалёка ад польскага Любліна і належыць сям'і Пташэк.

Яшчэ ў 1997 годзе Яраслаў Пташэк, калі быў студэнтам 4-га курса, узяў першы банкаўскі крэдыт і на гэтыя сродкі пабудаваў 2000 кв.метраў цяпліц, дзе затым вырошчваліся гваздзікі і фрэзіі. У бізнесе яму дапамагала жонка Марыя. А сёння тут працуе ўся сям'я — разам з бацькамі дзеці Агнешка, Міхал і Яцэк.

Яцэк першым і пачынае экскурсію.

*— Наша фірма зараз лічыцца лідарам на польскім рынку па якасці прадукцыі,* — распавядае ён. — *Вырошчваем і прадаём архідэі, антурыумы і ружы. Дзякуючы апошнім інвестыцыям, сталі першым у Польшчы, другім у Еўропе і трэцім у свеце цэнтрам вытворчасці антурыумаў. Наша кампанія мае шмат узнагарод, а тата ў свой час нават быў узнагароджаны прэзідэнтам Польшчы Аляксандрам Квасьнеўскім Залатым крыжом за дзейнасць на карысць польскай сельскай гаспадаркі і развіцця Люблінскага рэгіёна.*

Колькі ж трэба грошай, каб займець такую фабрыку? Магчыма, яна пабудавана на сродкі Еўрасаюза, які падтрымлівае некаторыя бізнес-праекты?

*— Еўрасаюз даў толькі 100 тысяч еўра,* — тлумачыць наш суразмоўца. — *А на тое, каб пабудаваць аранжарэю для архідэй, спатрэбілася 30 мільёнаў еўра. Вырошчванне кветак — гэта наш сямейны бізнес, які пачаўся не сёння. Я ўжо чацвёртае пакаленне. Пасля Другой сусветнай вайны мае продкі займаліся вырошчваннем гародніны, затым перайшлі на кветкі. Тата яшчэ пры савецкай Польшчы браў крэдыт у банку, але ўсё вярнуў. Таму і цяпер нам без асаблівых праблем далі ў галандскім банку 30-мільённы крэдыт пад заклад аб'екта, які пабудавалі. Там ведаюць, што Пташэкі — сур'ёзныя людзі, з якімі можна мець справу. Так бы мовіць, крэдытная гісторыя ў нас добрая.*

Вытворчасць на самай справе проста ўражвае. Вялізная колькасць архідэй, суперсучасная аўтаматызаваная лінія, некалькі гектараў тэрыторыі. І... усяго некалькі рабочых.

*— Сёння выхадны дзень, але аўтаматы і на самай справе робяць амаль усю справу,* — кажа Яцэк, калі бачыць маё здзіўленне. *— Напрыклад, электронная сістэма можа паказаць, у якім месцы знаходзіцца ў пэўны момант нейкая канкрэтная кветка. Тэхніка сартуе кветкі па колеры, росце... Імкнёмся да таго, каб аб'ём ручной работы быў мінімальны, таму на такім вялізным прадпрыемстве працуюць усяго 45 чалавек. І гэта на 15 гектараў цяпліц! Выдаткі меншыя, значыцца, меншая і цана.*

Убаку стаяць кветкі, якія сёння павінны адправіць пакупнікам. Тут роўна 10 тысяч архідэй.

*— Кожны дзень столькі прадаём і столькі ж саджаем,* — працягвае Яцэк. — *85 працэнтаў продажаў прыходзіцца на Польшчу, але інтэнсіўна развіваюцца рускі, украінскі і беларускі накірункі.*

— І які кошт, напрыклад, адной архідэі? — цікаўлюся ў маладога бізнесмена, бо ведаю, што ў Мінску за архідэю гандляры просяць 250—310 тысяч рублёў (20—25 еўра).

*— У сярэднім — 6 еўра. Гэта даражэй, чым у Галандыі, але там якасць кветак горшая. А ўвогуле, кошты ўвесь час вагаюцца. Гэта залежыць і ад сітуацыі на рынку, і ад святаў у краіне. Хоць практыка такая, што цэны мы звычайна мяняем два разы ў месяц.*

Яцэк настолькі ўлюблёны ў справу і кветкі, што, напэўна, можа расказваць пра іх гадзінамі. Ён паказвае, як пачынаецца працэс вырошчвання, распавядае пра французскую кару, якую спецыяльна прывозяць, каб вырошчваць архідэі, вядзе ў аранжарэі, дзе растуць антурыумы і ружы. Дарэчы, штодзённа кампанія Пташэкаў прадае 10 тысяч архідэй, 10 тысяч антурыумаў і 80 тысяч руж. Прадпрымальнікі мяркуюць, што тыя сродкі, што былі патрачаны на цяпліцы для архідэй, акупяцца ўжо праз дзесяць гадоў. Пташэк-старэйшы верыць у светлую будучыню свайго бізнесу і спадзяецца на супрацоўніцтва з Беларуссю.

*— У Беларусь мы пастаўляем кветкі праз імпарцёраў,* — распавядае ён. — *Але не вельмі шмат. Кожны тыдзень — каля дзвюх тысяч архідэй. Ведаю таксама, што шмат беларусаў купляюць нашу прадукцыю ў іншых польскіх магазінах. Шчыра скажу, што нам цікава было б інвеставаць грошы ў Беларусь, але зараз у Польшчы ёсць такое меркаванне, што, калі замежны бізнес паспяхова развіваецца ў вашай краіне, то яго ў любы момант можа прыбраць да рук дзяржава. Магчыма, гэта стэрэатып, і тым не менш — вельмі вялікая рызыка... Хоць, паўтаруся, беларускі рынак — цікавы для нас. Гэта выхад і на Расію, і на Казахстан. Можна было б пачаць проста з нейкай базы. Калі б продажы ішлі добра, адкрылі б у Беларусі ўласную вытворчасць.*

Напрыканцы гутаркі Яраслаў Пташэк прызнаецца, што ўсё ж такі вырашыў сам з'ездзіць у Мінск "на разведку", пасля чаго і прыме канчатковае рашэнне. Пабачым праз год-два, як сустрэлі ў Беларусі патэнцыяльнага польскага інвестара...

**Алесь СІВЫ.**

*Люблін—Мінск.*



ПАДЛІЧЫЛІ

## Зарабіў на... адстаўцы

Віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч, былы кіраўнік Нацыянальнага банка, які з гэтай пасады быў адпраўлены ў адстаўку пасля рэкорднага абясцэньвання беларускага рубля і збяднення ўсёй краіны, прызнаўся, што захоўвае свае грошы толькі ў беларускіх рублях.

Мала таго, за два гады пасля адстаўкі ў ліпені 2011 года Пракаповіч так згуляў з "выхаднымі" за адстаўку грашыма, што зарабіў у паўтара раза болей.

*"Калі я сыходзіў з Нацыянальнага банка, дык атрымаў "выхадныя" грошы. Усе яны дагэтуль захоўваюцца ў "Беларусбанку" ў беларускіх рублях. Гэта вельмі выгадна, за гэты час я многа зарабіў, фактычна ў паўтара раза болей, чым паклаў. Вельмі высокія працэнтныя стаўкі",* — распавёў Пракаповіч.

Згодна з законам "Аб дзяржслужбе", Пётр Пракаповіч павінен быў атрымаць тры сярэднямесячныя заробкі за адстаўку. "Еўрарадыё" падлічыла грошы Пракаповіча.

Дзеючы кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова прызнавалася, што яе заробак складае 2000 долараў. Калі ўзяць прыкладна гэтую суму за аснову і пералічыць яе па курсе долара (на момант звальнення Пракаповіча — 5000 рублёў за амерыканскі "рубель"), то Пётр Пятровіч атрымаў каля 30 мільёнаў рублёў "выхадных".

На момант адстаўкі Пракаповіча ў "Беларусбанку" стаўкі па дэпазітах былі ў межах 23—28%. Самы выгадны дэпазіт на той час — уклад на тры гады пад 28%. Такім чынам, калі Пракаповіч размясціў уклад пад гэтыя працэнты — за два гады паспела накапаць каля 23 мільёнаў толькі па працэнтах. Але гэта не ў паўтара раза болей...

Дарэчы, самая высокая стаўка "Беларусбанка" па дэпазітах у замежнай валюце на жнівень 2011 года была 9% гадавых (цяпер 4,5—5%). За два гады Пракаповіч пабагацеў бы на 1000 долараў.

Звяртаем увагу і на тое, што, нягледзячы на адданасць нацыянальным грашам, Пётр Пракаповіч раіць беларусам захоўваць зберажэнні... у розных валютах.

НУ И НУ!

*Снимки с дня рождения, которые выложила в интернет дочь министра торговли России, возбудили российскую общественность. Какой размах! Какое барство! Больше миллиона евро выложить за празднование дня рождения совсем юной и ничем себя не проявившей особы!*

Но каково же было удивление белорусской общественности, когда выяснилось, что журналисты все перепутали. Дочь министра торговли России выложила фото не своего праздника, а гулянки, которую закатила ее подруга — белоруска, уроженка Слонима Леонела Мазепа. "Жена одного влиятельного человека", — уточнила про свою подругу дочь министра торговли.



ПЕРСОНА

# Дудараў

***25 пытанняў вядомаму драматургу, які гатовы на сябе прыняць, што перакруціў гісторыю ў "Вітаўце", і які лічыць, што, калі тэатр на самаакупнасці, тады на сцэне — ніжэй плінтуса.***

*Аляксея Дударава прадстаўляць не трэба — ён у нашай краіне вядомы і ўшанаваны. Яго п'есы не сыходзяць з тэатральных афіш краіны, яго фільм "Белыя Росы" даўно названы народным кіно — а цяпер на "Беларусьфільме" здымаецца працяг па яго сцэнарыі "Белыя Росы-2". Нядаўна ў Вялікім тэатры адбылася прэм'ера балета "Вітаўт", да якога Аляксей Ануфрыевіч напісаў лібрэта. Словам, падстаў, каб сустрэцца з мэтрам беларускай драматургіі, хоць адбаўляй. І мы не прамінулі гэтым скарыстацца.*



Аляксей Дудараў падчас здымак фільма «Дняпроўскі рубеж».

Фота Юрыя ІВАНОВА.

**1. — Аляксей Ануфрыевіч, без балета "Вітаўт" у інтэрв'ю не абысціся — прэм'ера сезона, адна з апошніх вашых работ. Спектакль горача абмяркоўваюць, не буду хаваць — крытыкуюць. Я думаю, усё ж такі добра: абмяркоўваем сваю гісторыю, капаем да сваіх каранёў. Але пасля спектакля ў мяне было пачуццё: усё-такі патрэбны фільм! Як вы думаеце?**

— Дай Бог! Мая жонка сказала пра мяне ў рыфму, па-руску, праўда: "На старости лет вот вам балет". Што тычыцца фільма, я пра гэта не думаў, але маё сэрца радуецца, паверце, што адзін з легендарных герояў нашай зямлі Вітаўт Вялікі — на сцэне Вялікага тэатра. Нехта вельмі слушна сказаў, што вывучаць гісторыю Англіі па творах Шэкспіра — недарэчнасць, дурнота. Але людзям цікавая Англія менавіта з-за шэкспіраўскіх хронік. Дзякуй Богу, што ў Купалаўскім тэатры ідзе "Чорная панна Нясвіжа" пра Барбару Радзівіл. Нядрэнна, калі б і опера выйшла. І тыя закідоны — што беларусы, маўляў, прыватызывалі нейкага чужога героя...

**2. — Дзе такое пішуць?!**

— У Літве, здаецца... Яны не супакояцца ніяк...

**— Хай пачытаюць паэму Някляева "Паланэз!"**

— І не толькі Някляева, хай увогуле больш чытаюць і ведаюць, што Кейстут загінуў у Крэве. Уся гісторыя, пра якую распавядаецца ў балеце, адбываецца ў Крэве. І, дарэчы, як там было на самай справе, гэта не мая турбота. Я — творца. Мастак. Я ўбачыў недзе, напрыклад, партрэт Рагнеды... Адкуль мастак ведае? — падумаў? Яе наўрад ці малявалі пры жыцці. Але ёсць партрэт — мастак так бачыць! Так, Рагвалод меў вельмі прыгожую дачку. Але што такое прыгажосць X стагоддзя? Можа, яе разумелі не зусім так, як цяпер. У рэшце рэшт, мне чэхаўскія гераіні падабаюцца больш, чым сучасныя мадэлі.

**3. — Але, вяртаючыся да "Вітаўта", — чаго не хапіла балету, па-вашаму?**

— Абмяркоўваць гэтае пытанне я не буду. Мы аддалі ўсё, што мелі. А гледачу заўсёды чагосьці не хапае, а нешта залішняе. Заўсёды так было і так будзе. І дзякуй Богу! Няхай спрачаюцца, няхай высвятляюць, я гатоў на сябе прыняць, што перакруціў гісторыю. Але з-за гэтага нехта будзе яе лепш ведаць.

**4. — Але ці мог Ягайла за каханне аддаць карону?! Не. Жанчыны ў сярэдневеччы так высока не цаніліся.**

— Ягайла, можа, і не аддаў бы карону за каханне, аднак Ядвіга — вельмі магутная асоба — моцна магла гэтаму паспрыяць. Як сапраўдная жанчына. А тое, што яна была сапраўдная, у гэтым я не сумняваюся. Як і Рагнеда. Яшчэ не ўсё сказана. Наогул прэм'еры — гэта не паўнацэнныя спектаклі. Можна сказаць, прагоны. Балет стане спектаклем на 10—20-й раз.

**5. — А чаму вам з рэжысёрам Пташуком адмовілі некалі ў фільме? Я памятаю, вы ў сярэдзіне 1990-х хадзілі ў Адміністрацыю прэзідэнта...**

— Грошай неставала, гэта ж не таннае задавальненне. Гісторыя — гэта касцюмы, рыцары, замкі. Не серыял. І наогул тады ўсё каціласся да таго, што мы маем зараз на тэлебачанні: ад сапраўднага да несапраўднага, я лічу. Але Міша Пташук, светлая яму памяць, сказаў, што рана ці позна гэты матэрыял будзе экранізаваны. І мне — як патрыёту сваёй краіны — не важна, хто будзе сцэнарыстам, хто будзе рэжысёрам. Не я першы, не я апошні.

**6. — А хто з маладых? Сябра Курэйчык?**

— Сябрам яго я ніколі не лічыў, ён намнога маладзейшы, ён дзіцёнак. На першую пару я яго падтрымліваў, і не шкадую. І ніколі шкадаваць не буду аб гэтым.

**7. — А ў яго, здаецца, да вас моцнае пачуццё канкурэнтнасці. Гэта так?**

— Са мной канкурыраваць ўжо позна, трэба было раней гадоў на 30, акурат на ўсё яго жыццё. А цяпер ужо позна. Як і канкурыраваць з Макаёнкам, з Крапівой. Што ёсць, то ёсць, што напісана, то напісана. Даруйце, можа, я нахабнавата гэта гавару і паралелі некарэктныя праводжу, аднак гэта так. Іншая справа, што, калі хто-небудзь у маіх інтэрв'ю дрэннае слова пра Макаёнка, ці пра Крапіву, ці пра старэйшых таварышаў знойдзе, хай кідае ў мяне камень. Але такога не было! Таму што, я ўпэўнены, яны зрабілі багата, і за гэта ім нізкі паклон. А разбірацца, хто лепей... Няхай гісторыя разбіраецца і чытач.

**8. — Моладзь хоча як хутчэй расчысціць сабе пляцоўку. Ёсць, мабыць, агрэсія новага пакалення?**

— Гэта мы ўжо праходзілі: "Кто был ничем, тот станет всем". Дык вось, той, хто быў нікім, нічым і не стане! Ніколі. І потым — усё грунтуецца на падмурку. Хочаш перарабіць дом? Але не чапай падмурак, умацуй яго і потым будуй сваё. А калі падмурак знішчаеш і на пяску пачынаеш будаваць, то лёс будынка сумны.

**9. — Як ідзе праца над "Белымі Росамі-2"? Вы шмат надаяце ўвагі здымкам?**

— Не.

**10. — Аддалі матэрыял — і кропка? Моцныя нервы.**

— Не, нервы ў мяне не зусім моцныя. Аднак я ўмешваюся толькі тады, калі ў мяне пытаюцца. Калі да мяне звяртаўся светлай памяці Ігар Міхайлавіч Дабралюбаў, я выказваў свой пункт гледжання. Аднак гэта яшчэ не факт, што ён прыслухоўваўся. Зараз "Белыя Росы-2" ставіць Саша Бутар, маладая жанчына і зусім малады рэжысёр. А я не рэжысёр, я драматург: напісаў — за гэта і адказваю.

**11. — Мне здаецца, зараз вы на парозе новага перыяду ў жыцці. Скончылася адна эпоха — у Тэатры Беларускай арміі, наперадзе іншая. З якім сэрцам вы пакідалі сваю пасаду мастацкага кіраўніка?**

— Не з цяжкім. Мне наогул падаецца, што я там быў месяцы тры. Насамрэч — дзесяць гадоў роўна! Каб усе ведалі, мне было прапанавана працягнуць кантракт. Але я скарыстаў свае правы яго не працягваць. Я сваё зрабіў, тэатр пастаўлены на рэйкі, ён рухаецца — і рухаецца выдатна. Мяне выдатна заменіць Марына Віктараўна, дарэчы, і прозвішча ў яе добрае — Марына Дударава.

## Дасье «Народнай Волі»

*Вядомы драматург і кінадраматург Аляксей Дудараў нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў Наваполацкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча нафтавікоў, працаваў слесарам на нафтаперапрацоўчым заводзе. Потым паступіў і скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці "акцёр драмы і кіно". Працаваў тут па спецыяльнасці... акцёрам, загадчыкам літаратурнай часткі ТЮГа (1976—1979). Дэбютаваў у друку ў 1973 годзе. З 1987 г. з'яўляецца сакратаром Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі. З 1989-га — член Беларускага ПЭН-цэнтра. У 1991—2002 г. займаў пасаду галоўнага рэдактара часопіса "Мастацтва". З 2003-га па 2013 г. з'яўляўся мастацкім кіраўніком Драматычнага тэатра Беларускай арміі.*

*Узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны". Лаўрэат прэмій Ленінскага камсамола Беларусі (1982) за зборнік апавяданняў "Святая птушка" і п'есу "Выбар", Ленінскага камсамола (1984) "за творы апошніх год", Дзяржаўнай прэміі СССР (1985) за спектакль "Радавыя", прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва (2002).*

**12. — Вы столькі гадоў працавалі сярод кадравых ваенных — яны ўсё ж такі асаблівая каста?**

— Таксама людзі. І ставіцца да іх, што "аты-баты, шли солдаты" і больш ім нічога не трэба, нельга, няправільна. Перш за ўсё тэатр быў створаны па ініцыятыве міністра абароны Леаніда Сямёнавіча Мальцава. Канешне, калі б трупа была больш на 10 чалавек... Мы стаўку рабілі на маладых, а маладыя актрысы... яны маюць магчымасць палепшыць дэмаграфію. Малайцы, канешне. Але трэба часта новыя ўводы рабіць — бедная Марына Віктараўна... І хто б што ні казаў, тэатр, калі ён сапраўдны тэатр, не можа існаваць на самаакупнасці. Калі самаакупнасць, тады на сцэне — ніжэй плінтуса. А ў тэатры павінна быць сур'ёзная размова: з гледачом, з самім сабой. Усе дзесяць гадоў мы стараліся гэта рабіць.

**13. — Ці будзе мяняцца палажэнне аб Нацыянальнай тэатральнай прэміі? Журы, у якім больш за 100 чалавек з усёй краіны, не дзеяздольна, па-мойму.**

— Павінна мяняцца! Я свае нейкія прапановы ў міністэрства і па тэатрах разаслаў. У гэтым годзе конкурсу не будзе. Але тое, што Нацыянальная тэатральная прэмія павінна ўдасканальвацца, відавочна. Я быў старшынёй журы і багата каго з членаў журы ўбачыў толькі на галасаванні, яны працавалі па прынцыпе: "Слухай, я толькі сёння прыехаў, за што прагаласаваць, а?" Але важна стаялі, апускалі бюлетэні.

**14. — З чаго сёння больш за ўсё смуткуеце?**

— Гады накладваюць адбітак... Я не разумеў некалі Разенбаума: "Уже прошло лет 30 после свадеб, уже не мчимся в гости на ночь глядя". Цяпер разумею. З гэтага і смуткую.

**15. — А настальгіі няма? Па мінулым, па савецкім часе? Сацыёлагі гэтую з'яву ў грамадстве адзначылі.**

— У большасці не па савецкіх часах настальгія, а па, хутчэй за ўсё, стаўленні грамадства — падкрэсліваю, усяго грамадства — да мастацтва. Яно было іншым. І слова "журналюгі" з'явілася не ў тыя часы. З другога боку, багата хто журналюгамі і зрабіўся. Але і да мастакоў пытанні ёсць: многія з нас пераасталі быць асобамі. І потым яшчэ: раней было ўсё зразумела. А цяпер — не, не ўсё... Гэта шмат каго раздражняе. І нараджаецца настальгія. Мы ж славяне: калі не па-мойму — значыць, не правільнаму. А чаму? Не па-мойму — значыць, не мой час. Альбо я застаўся ў мінулым, альбо я надта наперад гляджу. Мы ж хочам бульбу пасадзіць і назаўтра яе выкапаць — есці хоцца.

**16. — Але вось нашы дзеці — яны ўжо іншыя?**

— Іншыя фізічна. Але законы фізікі тут ні пры чым. С Богам жыць цяжка ва ўсе часы.

**17. — Як сёння плыве карабель пад назвай "Саюз тэатральных дзеячаў"? Вы ўзначальваеце яго ўжо 20 год. Магчыма, гэты праект ужо зжыў сябе, ён ужо не патрэбны сучаснаму акцёрству?**

— Магчыма... Не ведаю... Але акцёраў цяпер вельмі хутка забываюць. Учора яшчэ на руках насілі, а сёння ўжо толькі спецыялісты памятаюць. А чалавеку на пенсіі яшчэ жыць і жыць.

**18. — Гэта значыць саюз цяпер як сабес?**

— Магчыма, ён вымушана ператвараецца...

**19. — Але шыльду на будынку СТД трэба змяніць, яна сціплая, калі не сказаць, старая. Вы ж сябруеце з "Прыёрбанкам", чаму не папросіце аб дапамозе?**

— Я прывык разлічваць на свае магчымасці і не выкарыстоўваць сваіх сяброў. Калі яны сябры, яны прыходзяць на дапамогу самі і тады, калі трэба. Дарэчы, тая мэбля, якую вы бачыце ў СТД, — гэта "Прыёрбанк" падараваў. Але не таму, што Касцючэнка са мной сябруе, не таму, што я быў больш за 11 гадоў членам назіральнага савета, а таму, што "Прыёрбанк" шануе тых, хто займаецца творчасцю. Вось і ўсё.

**20. — Нядаўна японцы зрабілі такую выснову: чым вышэй інтэлект, тым менш веры. Гэта значыць, сярод людзей з высокім інтэлектам больш атэістаў. Як вы думаеце?**

— А яны адказалі на пытанне, што такое інтэлект?

**21. — Напэўна, IQ?**

— Ну, я такіх разумных слоў не ведаю! А ведаю, што самае галоўнае — душу нам даў Гасподзь Бог. Менавіта яе трэба берагчы і хаця б не пагоршыць за сваё існаванне, хаця б не пагоршыць...

**22. — Але вось новае адкрыццё: вучоныя сцвярджаюць, што інфармацыя стварае гены, інфармацыя стварае матэрыю, а не наадварот. Гэта значыць, мы запраграмаваны звыш. Згодны?**

— Я адкажу алегорыяй. Аднаму чалавеку пачалі рабіць кампліменты — надта добра ў яго ўсё атрымліваецца. Ён гаворыць: "Што ж вы хочаце? У мяне ж за плячыма чатыры ўніверсітэты!" — "Калі паспеў да 25 год?!" — "Ну як жа, універсітэты скончылі мой прадзед, дед, бацька з маці і я". Калі тыя вучоныя гэта мелі на ўвазе, я згодны.

**23. — Якія планы ў саюза на Дом творчасці ў Астрашыцкім гарадку? Можа, яго варта прадаць за добрыя грошы? Ён пустуе і руйнуецца.**

— Каму?

**— Я думаю, мільянеру.**

— Гэта не я яго прадаю — Савет. Хай мільянер зойдзе да мяне ў кабінет, паразмаўляем. Але нікога да гэтага часу не было. Ва ўсякім выпадку Дом творчасці не закладзены. Так, зараз праблема з "Белэнерга". Але дапамагае Барыс Васільевіч Батура. Грошай не будзе ніколі, мы надта дабрачыннай справай займаемся — мастацтвам.

**24. — Таму і пытаюся. Будынак і ўчастак запушчаны, не прыносяць прыбытку, а толькі цягнуць грошы з саюза. Прадаць ці што? Хочацца парадку на зямлі.**

— Мне таксама гэтага хочацца. Паступова нешта робіцца. Здаваць у арэнду — з задавальненнем. Няма ахвотнікаў. Шмат хто лічыць, што ад мяне гэта залежыць: захацеў — прадаў, захацеў — падарыў. Не! Некалі, гадоў 15 таму, "Прыёрбанк" гатовы быў узяць яго на 20 гадоў у арэнду. Я вынес гэта на Савет. Не дазволілі: "Што наша — то наша". Усё, я бяссільны. У абход статута?

**25. — Што вас сёння радуе ў жыцці? Мне здаецца, вы чалавек сацыяльна аптымістычны.**

— У будучыню не верыць толькі той, хто багата награшыў. А так у яе трэба верыць. Як бы пагана ні было. Будучыня мяне абнадзейвае.

**Алена МАЛОЧКА.**

